# Як навучыцца плаваць

Плаваньне мае вялікае значэньне для людзей. Папершае, яно ўмацоўвае і аздараўляе цела, разьвівае сьмеласьць, рашучасьць, вытрываласьць, дае сілу волі і бадзёры настрой.



Падругое, яно мае вялікае чыста - практычнае значэньне. Дапамагае сьцерагчыся ад няшчасных выпадкаў на вадзе і ратаваць сваё і чужое жыцьцё. Тут мы даём асноўныя правілы, як навучыцца плаваць.

### Падрыхтоўчае практыкаваньне

Першапачатковае становішча—стаяць роўна, галава прыпадымаецца ўверх. Пяты састаўляюцца разам, а пальцы ў бакі. (Стаяць пасалдацку). Рукі ўверх далонямі наперад і прыставіць адну да аднэй (малюнак 1).

Мал. 1.

Пры слове „раз“—рукі разводзяцца ў бакі наўзровень плеч, далонямі ўніз, пры гэтым трэба зрабіць няпоўнае ўдыханьне (мал. 2). Пры слове „два“—локці прыставіць да бакоў, а рукі пераносяцца да барады далонямі на двор, складзеныя, як ў першапачатковым становішчы, пры гэтым зрабіць поўнае ўдыханьне (мал. 3).

Пры слове „тры“—прыняць першапачатковае становішча, падымаючы далоні ўверх. Не разводзіць іх, а падымаць складзенымі.

### Рухі рукамі і нагамі

Першапачатковае становішча (мал. 1). На „раз“—рукі разводзяцца ў бакі на ўзровень плеч далонямі ўніз, няпоўнае ўдыханьне (мал. 2).

На „два“—локці прыставіць да бакоў, а рукі перанесьці да барады далонямі на двор, як у першапачатковым становішчы.



Мал. 3.

*(Працяг гл. на 3 стар. вокладкі).*



Мал. 2.

## ЗЬМЕСТ



Аўтоліногравюра вокладкі мастака *Вало.*

Да змаганьня за справу працоўных, будзь гатоў!

# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**
На 1 месяц . . . — р. 20 к.
„ 3 „ . . . — р. 60 к.
„ 6 „ . . . 1 р. 20 к.

ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ. Орган ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР.

**АДРАС РЭДАКЦЫЙ:**
МЕНСК,
Комсамольская, 25.

**№ 13 ЛІПЕНЬ 1927 г.**

* * *

Зручна, гучна грай нам, грайка,
Ад усіх рэж струн!
Ня сьвісьціць ужо нагайка,
Ня гудзіць бізун.

Селі макам усе тыя,
Што нас, вольны люд,
Не шкадуючы памыяў,
Аблівалі тут.

Барын веку дажывае,
Выгнаны Масквой,
Пан Варшаву прапівае,
Гонар панскі свой.

А мы самі, сабе самі
Ўжо гаспадары,
Малатамі і сярпамі
Звонім да зары.

Нібы пчолы ў соты з мёдам,
Да свайго вульля,
Мы вяртаемся дадому,
Як адна сям'я.

На сход сходзімся і лічым,
Ці усе прышлі,—
Хто спазьніўся—прысьці клічам
Да сваёй зямлі.

— Вы,—хтось кажа асьцярожна,—
Ня ўсе ў грамадзе.
— Гэй, дарогу, лях вяльможны!
Беларусь ідзе.

Грай-жа, грай нам гулка, грайка,
Ад усіх рэж струн
Ня сьвісьціць ужо нагайка,
Ня гудзіць бізун.

**Янка Купала.**



**У сёмую гадавіну вызваленьня Беларусі ад белапалякаў шчырае прывітаньне дзецям рабочых і сялян Заходняй Беларусі.**




*Апавяданьне* **М. Касянкова** *Малюнкі* **Л. Бескіна**

Каця яшчэ зусім маленькая. Яна ведае гэта сама, аб гэтым-жа кажа ёй бацька, калі, прышоўшы з работы, бярэ яе к сабе на калені. Тады паволі водзячы па яе галоўцы сваёю мазолістаю рукой, ён кажа з ціхай пяшчотай у голасе:—„Каця, каток мой маленькі, сіротка мая дарагая, абаіх нас пакінула маці твая!“ І голас яго дрыжыць і зрываецца.

Як жывы ўстае перад Кацяй вобраз памёршае маткі, і маленькае сэрца сьціскаецца ў балючай жаласьці к ёй. Жаласьць расьце, запаўняе ўсю Каціну істоту і пераходзіць у нешта падобнае да адчаю. Яе абхоплівае пачуцьцё поўнага адзіноцтва, ёй здаецца, што яна зусім адна, ёй здаецца, што ўсе пакінулі яе.

Але гэты адчай запаўзае ў сэрца маленькай Каці толькі на момант. Бацькава блізасьць выганяе яго з сэрца дачкі.— „Родны, блізкі тата, ён адзін толькі астаўся ў яе, адзін толькі думае аб сваёй Каці і шкадуе яе“. І маленькая Каця мацней прытуляецца да бацькавых грудзей. Абхопіць яго шчыра сваімі худымі ручкамі і маўчыць.

Каця адчувае, што цяжка і бацьку, што ён нудзіцца цяжка па мамцы. І яшчэ адчувае яна, што больна глядзець яму на яе, сіраціну. І Каці шкода бацькі, яна дужа хацела-б чым-небудзь аблягчыць бацькава гора, суцешыць чым-небудзь яго... Але ня ведае яна, чым суцешыць бацьку і ня ўмее суцяшаць, і таму маўчыць, шчыльна прытуліўшыся да бацькавых грудзей.

Жывуць Каця з бацькам у рабочым квартале, у невялічкім, асеўшым ад старасьці ў зямлю, маленькім доме. І часта, па вечарох у яго невялічкі, але, як відаць, прытульны пакой зьбіраюцца бацькавы таварышы. Гэта такія-ж, як і ён, рабочыя з сур'ёзнымі выразамі на тварах і мазалістымі рукамі.

Добрыя гэтыя рабочыя, яны ўсе шкадуюць маленькую сіраціпку Кацю, асабліва бывае ласкавы з Кацяй нейкі новы рабочы. У яго невялічкая бародка і белыя немазалістыя рукі. Ён нядаўна стаў працаваць на заводзе і ўжо добра здружыўся з рабочымі. Ён вясёлы і завець рабочых па імені. Рабочыя завуць яго Гаўрылаў, а Каці ён сказаў, каб звала яго дзядзькам Ігнатам. Ён ніколі не прамінё ўсьміхнуцца Каці і пагладзіць яе па галоўцы.

Толькі бацька Каці нешта ня дружыць з дзядзькам Ігнатам, і часта бацькаў погляд, востры і падозрана-вывучальны, поўзае па твары новага рабочага, ашчупвае ўсю яго нікчэмную, нерабочую фігуру.

Звычайна, калі прыходзяць рабочыя, бацька чым-небудзь завешвае вокны, і тады пры завешаных вокнах, пры скупым сьвеце газавай лямпы, рабочыя разам з бацькам часам праседжваюць амаль што да самага раньня, спрачаюцца, пішуць, чытаюць. Гавораць ціха, як-бы баючыся чаго, і толькі дзядзька Ігнат, як заўсёды, гаворыць крыкліва-громка. Ён гаворыць многа і добра, ня зьбіваецца, як другія, але бацька чамусьці рэдка з ім згаджаецца. Бацька ня любіць многа гаварыць, але яго ўсе ўважліва слухаюць і згаджаюцца з ім.

Забраўшыся на прыпечак, Каця пільна сочыць за рабочымі і прыслухоўваецца

да іх гаворкі. Яна мала разумее, аб чым гаворадь і спрачаюцца рабочыя. Ёй зразумела толькі самае галоўнае: гэта тое, што рабочыя разам з бацькам гатуюцца пайсьці супроць нейкіх людзей. Гэтым людзям належаць фабрыкі і заводы, на каторых працуюць рабочыя. І вось гэтыя людзі зрабілі так, што іх рабочыя жывуць, як жабракі, хоць у рабоце ня ўступяць валом.

Каця ведае, як працуе яе бацька, і яшчэ яна ведае, што ходзіць ён ў падраных ботах. І яна рада, што рабочыя гатуюцца пайсьці супроць гэтых людзей, бо тады, як кажуць самі рабочыя, рабочым будзе лепш жыць. Яе бацька ня будзе так многа працаваць і купіць сабе новыя боты. Але часамі побач з гэтай радасьцю ўнутры Каці ўсплывае нейкае няяснае, няпрыемнае пачуцьцё, пачуцьцё небясьпечнасьці. Яна адчувае, што над рабочымі і асабліва над бацькам вісіць нейкая небясьпечнасьць, нешта страшнае і незразумелае для Каці, пагражае бацьку і рабочым. Але не, што можа пагражаць гэткім здаровым і вялікім людзям. Яны нічога не баяцца. І гэта няпрыемнае пачуцьцё апушчаецца на самае дно Каціны й істоты.

Каця сядзіць на прыпечку датуль, пакуль сон не пачынае схіляць яе галаву і сваволька зачыняць ацежалеўшыя векі. Тады, скруціўшыся камочкам, яна засыпае. Часамі яна прасыпаецца ад іх говару, і тады зноў глядзіць на рабочых і слухае іх гаворку.

Нешта аднойчы яе разбудзіў бацькаў голас. Бацька гаварыў вельмі моцна і яго вочы ліхарадліва гарэлі. У іх агнёвым бляску была злосьць, была ўрачыстасьць і было абурэньне.

— Даволі ждаць і цярпець,—гаварыў бацька:—нацярпеліся даволі. Цяпер самы зручны момант. Я кажу, таварышы, праз тры дні мы павінны пачаць забастоўку. Гэтага хочуць тысячы рабочых і галодныя сем'і. Згадзецеся са мной, таварышы!

Бацька кончыў. Большасьць рабочых згадзіліся з бацькам. Дзядзька Ігнат таксама быў з бацькам. Толькі вось Каця зусім не разумела, чаму гэта ён часамі неўзаметку, так злосна пазіраў на бацьку.

І раптам дзядзька Ігнат адвярнуўся ад рабочых і твар яго скрывіўся ў лютай злосьці, праз якую праглядвала нейкая дзікая радасьць. Каця ўбачыла страшныя вочы і аскаленыя крэпка сьціснутыя зубы. У страсе яна міжвольна здрыганулася, палахліва сашчамілася на прыпечку.

Відаць, пачуў гэты рух Каці дзядзька Ігнат і ўспомніў аб ёй, парыўчата зварушыўся і ўпіўся вачыма ў Кацю. Але ў яго вачох ня было ўжо злосьці, а быў вялікі спалох. Убачыў баязьліва глядзеўшую Кацю і ўсьміхнуўся. Усьмешка вышла жалкая, баязьліва-вінаватая.



*...рабочыя разам з бацькам праседжваюць да самага раньня.*

* * *

Ноч глядзела на горад зімовым небам. Далёкія зоркі дарэмна парываліся асьвяціць і сагрэць неба,—іх боязна мігацеўшы сьвет губляўся ў яго сінявата-чорных прасторах, якія былі замарожаныя, як і зямля.

Халодны камень гарадзкіх будынкаў размашыста ўрэзаўся ў марозную высь. Застыў нярухома ў магунай рухомасьці,—няжывы, моцны, горды.

А сярод гэтых маўклівых будынкаў, нявыцечнай крыніцай б'е жыцьцё. Жыцьцё розпакалёрнае і крыкліва-громкае. І гэта жыцьцё вялікай гарадзкой вуліцы сьпяршыні ашаламіла і спужала маленькую Кацю. Яна амаль што ніколі ня была на гэтай вуліцы, і пасьля невялічкіх, драўляных домікаў рабочага кварталу, вялікія каменныя дамы здаваліся Каці яшчэ большымі. Яркі сьвет электрычнасьці балюча драпаў вочы маленькай Каці. Няпрыемна і страшна ўразаліся ў вушы настойныя крыкі аўтомобіляў. Была страшна іх імпэтная быстрыня.

Але гэты ўплыў вулічнага жыцьця на пачуцьці Каці хутка мінуўся. Кацінай істотай ізноў аўладалі старыя пачуцьці. Пачуцьцяў было многа і ўсе яны злучаліся ў адно—у пачуцьцё поўнага адчаю.

Быў мароз, у Каці мерзьлі ногі і сьцюдзёна было ўсяму целу. Перад вачыма на момант уставаў пакой іх хаткі. Якбы добра было пасядзець цяпер каля цёплай печкі! Каця цяпер далёка ад сваёй хаткі і ня ведае нават, у якім баку яна. Ды хоць-бы і знала, не пайшла-б дамоў. Чаго яна пойдзе, калі пуста іх маленькая хатка. Няма там ужо нікога, хто-б узяў яе к сябе на калені, пашкадаваў, няма яе блізкага, роднага бацькі. Учора ён быў, а сягоньня няма ўжо.

Учора ўвечары к ім ня прыходзілі рабочыя. Бацька расказваў Каці казкі. Было ўжо позна. У Каці пачыналі цежалець і закрывацца векі, як раптам у сенцах загрукала некалькі пар ног і ў дзьверы пастукалі. Бацька чамусьці замітусіўся па хаце, з нейкай асаблівай усьмешкай паглядзеў на Кацю і падышоў да дзьвярэй.

„Хто там?“

„Гэта мы, свае, адчыні“,—і вясёлы голас дзядзькі Ігната назваў бацьку па імені.

Бацька адшчапіў дзьверы і адступіў некалькі крокаў.

Напята расчыніліся дзьверы і з цёмных сенцаў выскачыў дзядзька Ігнат, а за ім у хату, замест жданых рабочых, ускочылі нейкія незнаёмыя, узброеныя людзі. І дзядзька Ігнат закрычаў нейкім нязвычайна злым і прарэзьлівым голасам: „Вось ён, забастоўшчык, бяры, хлопцы!“—і паказаў пальцам на бацьку. Тады накінуліся незнаёмыя людзі на бацьку і пачалі вязаць яго.

Спужалася Каця, кінулася да бацькі і закрычала: „Тата, тата, татачка!“ Але дзядзька Ігнат схапіў яе за руку і моцна штурхануў ад бацькі: „Прэч, шчанё!“

І слабенькая Каця ўсім сваім маленькім целам распласталася на падлозе, моцна выцягнуўшы галаву.

Ачнулася Каця толькі тады, як стукнулі дзьверы. Яна чула, як змоўклі крокі ў сенцах і заскрыпеў пад нагамі марозны сьнег. Потым усё змоўкла. Усхапілася Каця і кінулася да дзьвярэй, але дзьверы не адчыніліся, дарэмна яна напружвала ўсе свае маленькія сілы. Тады кінулася да вакна і прыліпла тварам да незамёрзшага сьцюдзёнага кавалка шкла. Вузкая вуліца была ў сінявата-белым мутным сьвеце. І ўжо паводдаль яна ўбачыла кучу людзей, якія ішлі ў бок гораду. З боку яна ясна заўважыла дзядзьку Ігната.

Да самага раньня прасядзела Каця каля вакна, чакала бацьку, была надзея, што ён вернецца, але бацька не варочаўся, і раніцою Каця рашыла, што бацька ня зьвернецца і што яго трэба пайсьці шукаць. Але дзьверы не адчыняліся, былі завалены знадворку і Каця не магла выйсьці. Па вуліцы рэдка праходзілі людзі і ўсё ў большасьці па другім баку вуліцы, і ніхто не зварочваў увагі на адчайныя стукі Каці па вакну.

Толькі пад вечар ёй адчыніла дзьверы нейкая бабулька. З блытанага расказу заплаканай Каці бабулька, як відаць, нічога не зразумела і, паглядзеўшы на яе, пайшла сваёй дарогай. Каця-ж бягом накіравалася ў бок гораду, куды павялі яе бацьку. Яна хутка заблудзілася, доўга блытала па прыгарадзкіх кварталах і толькі вось цяпер трапіла ў самае нутро гораду—каменнае і незнаёмае Каці.

Кругом яе было многа людзей, і ўсе яны былі чужыя і незнаёмыя. І Каці было страшна аднэй сярод гэтых незнаёмых людзей. Сярод іх былі і такія, катрыя забралі яе бацьку—з какардамі і аружжам. Большасьць-жа людзей была без аружжа, з белымі і жоўтымі бліскучымі гузікамі на грудзёх.

Гэта яны прыслалі людзей з какардамі і забралі яе тату. І страх мяшаўся з крыўдай на гэтых людзей. І гэты страх разам з крыўдай рос, разрастаўся і гатоў быў вырвацца вон, вырвацца плачам і крыкам адчайным. Крыкам аб тым, каб аддалі гэтыя людзі яе роднага, блізкага тату.

Але не закрычала Каця,—можа страх стрымліваў яе, а мо' так што. Сьціснуўшы зубы, каб ня дрыжэлі ад холаду, яшчэ шпарчэй пабегла па бруку.

Яна сама знойдзе свайго тату, дарэмна гэтыя людзі хочуць адабраць яго ў яе. Не адбяруць, яна знойдзе, і яны разам пойдуць дадому.

Каця не баіцца ўжо аўтомобіляў і іх крыкі ня рэжуць ёй вушы. Яшчэ пільней аглядаецца Каця кругом, сьмялей заглядае ў твары людзей, але ўсюды бачыць чужыя і незнаёмыя твары. І, раптам, міжвольна крык радасьці вырваўся з Каціных грудзей. Саскочыла Каця з бруку і пабегла праз усю вуліцу. Бегла скора, нічога ня бачыла, акрамя знаёмае сьвіткі і шапкі. Вочы былі прыкованы толькі да іх.


*Каця бягом накіравалася ў бок гораду...*

Як замірала ў грудзёх ад радасьці маленькае сэрца! А ў галаве білася толькі адна спалоханая думка, каб не зьмяшаўся з людзьмі, каб ня зьнік.

Яна добра спазнала вунь там, на тым баку вуліцы ён ідзе каля самаго бруку, а каля яго тыя самыя два з шашкамі.

Вось ужо зусім блізка. Знаёма калышыцца шырокая бацькава сьпіна, цьвёрда і ўпэўнена ступаюць бацькіны ногі ў старых падраных ботах.

„Тата, татач...“—і не закончыла Каця... Шырока ўзмахнула прасьцёртымі ўперад ручкамі і са ўсяго разьбегу павалілася на ледзяніста-шурпатую вуліцу. Пасьлізнулася сьпяшаючыся.

Бацька на крык Каці павярнуўся, трывожны погляд злавіў знаёмую фігурку дачкі, шырока ўзмахнутыя рукі. Як кідалася, на момант угледзіў яе твар. Нават ясна заўважыў выраз твару.

Рэдка ў чалавека можна ўбачыць гэткі выраз на твары. Твар Каці жыў. Ён быў сапраўдным люстэркам Кацінай душы. На ім сьвяцілася вялікая радасьць і разам з тым, скрозь налёт гэтае радасьці, прасьвечваўся, яшчэ ня сышоўшы, сьлед трывогі. І гэта радасьць, і гэты сьлед трывогі зьліваліся разам, і разам парываліся расказаць аб усім тым, што перажыла Каця за гэты час, і жальбаваліся на гэта перажытае.

Пазнаў бацька Кацю, і ад нечаканасьці пахаладзела ўнутры. Але толькі на момант... Рвануўся назад, але адзін з жандараў, што вялі яго, схапіў за руку:— „Куды-ы!“ Другі адскочыў назад, выцяў прыкладам у сьпіну... І бацька пашоў далей.

Зараз-жа ўскочыла Каця, перад вачыма людзі, людзі, многа людзей і ўсе незнаёмыя. „А дзе-ж тата, дзе-ж ён? Ага, вунь там, здаецца ў натоўпу мільганула знаёмая галава. Хутчэй туды“. І Каця пабегла.

Чулася калючая боль у абодраных руках і зьбітых каленях. А ўнутры ня было ўжо радасьці, быў адчай і спалох. І ўжо ня з радасьці крыкнула Каця: „Тата, татачка!“—а з адчаю. Шумлівая вуліца ўсмактала ў сябе гэты бяспомачны, поўны страху, дзіцячы крык і быў ён прыдушана-глухім.

Крыкнула Каця і наляцела на чалавека, што стаўбняком стаяў ля бруку. Чалавек схапіў Кацю за руку: „Чаго ты?“ Зьдзіўлена глядзеў на Кацю. Шапка з какардай нахілілася да самага твару беднай Каці. Убачыла Каця какарду і рванулася ад чалавека: „Пусьці!..“ Але моцна дзяржаў чалавек руку Каці. „Пусьці!“...— „Хто ты, дзевачка?“.

Адпусьціў чалавек Кацю толькі, як яна ад страху і злосьці заплакала.

Ізноў пабегла Каця. Ні на каго не зварочвала ўвагі, налятала на людзей, сьмела шнырала паміж натоўпу. І ўсё бегла, бегла. Не прыглядалася, бо знала, што бацька далёка ўжо. Застанавілася толькі, як дабегла да таго месца, дзе гэту вуліцу перараазала другая вуліца. Халодна павеяў марозны вецер. Куды-ж цяпер? Цёмныя і бязьлюдныя былі вуліцы направа і налева. Рэдкія ліхтары чырвоным сьветам асьвятлялі іх; віднеліся рэдкія прахожыя. Куды-ж цяпер? Цёмныя і пустыя былі вуліцы, цёмна і пуста было ўнутры Каці...

▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼

# „Пся крэў, большэвік!“

*Апавяданьне вучня* **А. Мацеральніка**

Гэта было тады, калі польскія найміты руйнавалі наш Беларускі край, калі польскія легіёны, як разьюшаныя, галодныя зьвяры, вандравалі па Беларусі, шукаючы сабе скарбаў і спажывы.

* * *

Вёска Дуброва была пад уладай паноў. Адбылося гэта якраз ў паўдня. Сонца, не шкадуючы, пякло ў гэту летнюю пару. На той вуліцы, якая йдзе на выган, была рэквізыцыя. Сілаю ад беднага сялянства забралі апошніх кароў, сьвіней, коняй... З учарашняга дня сяляне плачуць і праклінаюць паноў...

Раптам з Дзевіч-гары, нібы струмені вады, рушыліся салдаты. Гэта былі чырвонаармейцы, якія з аружжам у руках уварваліся ў вёску. Паны, нават не пасьпеўшы апамятацца, бадай што ўсе паўцякалі, а некаторыя проста засталіся забітымі.

Толькі адзін паляк не пасьпеў уцячы. Ён знаходзіўся ў хаце Якуба. Чырвонаармейцы ўжо ў вёсцы, а ён яшчэ ўсё круціцца па хаце і ня можа знайсьці сабе месца, дзе можна было-б схавацца. Раптам ён затрымаўся ля падпечка і, сагнуўшыся, палез пад яго. Куры сьпярша ня мірыліся са сваім новым жыхаром, але, прывыкшы, палічылі яго за свайго...

Сяляне павыходзілі з „бліндажоў“ і свабодна сабе хадзілі па вёсцы. Вылез і Якуб са сваёй сям‘ёй. Ён, як першы бядняк у вёсцы, усёй душой аддаўся чырвоным і рад быў, што яны прышлі. Не прайшло доўгага часу, як у хату ўвайшоў чырвонаармеец і сказаў:

— Дзядзька, я ў вас спынюся на кватэры.

— Добра, добра, сынку, будзь сабе!—адказаў Якуб.

Якуб чырвонаармейцу адпусьціў усю перабіўку, а сам жыў у пярэдняй.

Лета, як усім вядома, пара работы. Касьба, жніво, поліва агародаў,—усё гэта займала сялян.

Але што за ліха,—кожны раз, як толькі Якуб з жонкай вярталіся з поля, дык ці малако выпіта, ці сьмятана зьедзена, ці яйкі выпіты, ці тое, ці сёе, а ўсё

бяда... Але Якуб не зьвяртаў на гэта ўвагі. Хоць жонка і скардзілася кожны раз.

— Ат,—кажа Якуб,—можа наш Жук прывучыўся...

На гэтым справа і канчалася. Вечарамі доўга праседжвалі ў хаце з чырвонаармейцам. Той ім расказваў, як яны ваявалі з палякамі, а Якуб усё кляў іх.

— А ведаеш што,—сказаў ён нарэшце,—я ведаю, дзе цяпер палякі. Яны не далей, як ля вёскі Вазгіл.

— Але, трэба аб гэтым паведаміць камандзіра, — сказаў чырвонаармеец. Доўга яны бывала гутарылі лежачы, пакуль не засыпалі. Ня ведаю, якім парадкам, але хутка палякі адагналі чырвоных. Якуб і яго сям'я ў гэты час сьнедалі. Раптам закудахталі куры ў падпечку. Якуб адвярнуўся і прамовіў:

— Якая іх там немач душыць!

— Можа шашок?—сказала жонка Якуба.

Але заместа шашка з падпечку вылез чорны вымазаны чалавек.

— Вось дзе наш „выпікока"!—сказаў малы Янка.

Якуб, як згледзіў, зжахнуўся і сядзеў на лаве ні жывы, ні мёртвы. Хварба мянялася на яго шчоках з чырвонай на белую, а з белай на чырвоную.

Жаўнер правай рукой выхапіў рэвальвэр і прамовіў:



*Жаўнер правай рукой выхапіў рэвальвэр...*

— Пся крэў, большэвік! Бэндзеш мувіць, дзе сен нашы!?

Раздаўся стрэл і Якуб зваліўся з лавы, а паляк ляснуў дзьвярыма і вышаў.

Якуба пахавалі не на могілках, бо ён быў „гжэшны", як казалі палякі, а недалёка ад маладога ельніку была яго магіла, падобная да кургана. Яна ўся абрасла палыном і рознай дзікай травой.



# Камэра № 13

*(Комсамольцы ў Менскай турме)*

Пусты тратуар перад Сярпухоўскай 5, далёка яго абыходзяць падарожнікі—там „дэфэнзыва“.

Прывялі мяне туды. Паставілі тварам да сьценкі—„стой“ і не паварачвайся, а тут убачыў сваіх: Бампі, Крэйліна; хочацца пагутарыць з імі, праведаць, як усё гэта здарылася, а нельга. Салдат ашчацініўся „багнэтам“ і злосна пакрыквае.

Прайшла гадзіна.

Аднак, прыстаўлены да нас салдат аказаўся не з раўнівых абаронцаў „айчызны“. Як толькі афіцэр выходзіў, мы ўсе зьбіваліся ў кучу і пачыналі размаўляць, распытваць адзін у другога. Але не на доўга,—кулём кідаліся мы на месцы, пачуўшы шагі афіцэра.

Прыходзілі глянцаваныя афіцеры—у бліскучых ботах, з моноклямі,—разглядвалі нас, насьміхаліся...

Вечарам прышоў сам „шэф“. Абышоў усіх, пытаў імёны, прозьвішчы. І пасыпалася самая адборная кляцьба.

* * *

Убягае жандар, выклікае:

— Хто тут Мядзьведзеў?

Ніхто не адзываецца.

Праз паўгадзіны зноў.

— Мядзьведзеў, выходзь!

І так некалькі раз.

— Тваё прозьвішча як?

— Олікер.

— Пойдзем.

Увялі ў вялікі пакой. Падвялі да століка і выцялі кулакамі па твары. А ў пакоі паненкі, афіцэры глядзяць, насьміхаюцца.

Скрозь пялёнку я адчуў, што абвясьцілі адпачынак на 15 хвілін.

А для таго, каб „адпачыць“, увялі ў „габінэт“, маленькі, брудны—уборная, дзе ні стаць, ні сесьці.

Правялі да „самага“ Красуцкага. Тут ужо зусім іншае.

Шэф пачаў па „добраму“.

— Ты-ж яшчэ зусім маленькі... Ня бойся прызнацца... нам усё вядома... мы цябе дахаты...

Маўчу.

Шэф „дзейнічае“ так, каб не засталося сьлядоў ад удараў. Наском лакіраванага боту б'е па касьці нагі. Б'е на працягу паўгадзіны.

Маўчу.

— Вазьмеце яго ў „габінэт“.

Праз 15 хвілін загад. „Выходзь палуднаваць!“

Але замест полудня — выкручваюць руку, сьціскаюць галаву рэмнем...

— У апошні раз, абдумай.

Парашыў „змайстраваць“ паказаньне.

— Беспрацоўны я, служачы, меў патрэбу ў грашох... Прапанавалі раскідаць праклямацыі... я згадзіўся.

— А хто табе праклямацыі даваў?

— Хто яшчэ раскідваў?

Блытаюся ў адказах, але не выдаю.

Пытаньні падмацоўваюцца ўдарамі ў твар, у галаву, толькі праз дзьве гадзіны адпускаюць. Аказваецца, у гэты час дапрашвалі Крэйліна, Бампі і іншых.

Ноччу павялі нас у турму.

* * *

Прывялі нас у карантын (часовая камэра), адкуль разьмяшчалі. Камэра з удушлівым пахам згружаных цел. На два вакны і 30 нар там зьмяшчалася 86 чалавек. Уночы спалі мы—6 чалавек ўпапярок двух ложкаў. Падлога пад нарамі была ўслана людзьмі, і ступалі па целах.

У карантыне ўлада, у залежнасьці ад большасьці ў камэры, то пераходзіла ва ўладаньне крымінальных, то пападала ў рукі палітычных.

Калі нас прывялі, улада была ў крымінальных. Пагэтаму нам і прышлося адыграць некалькі „гульняў“, якія скончыліся для нас няўдала.

Рабілася гэта не з ненавіджаньнем да „палітычных“; ніколькі, нават, наадварот, „палітычныя“ карысталіся пашанай.

Але пад канец мы так асвойталіся, што набылі нават некаторы аўторытэт. „Падаяньне“ (турэмны выраз—пасылка лістоў з гораду) мы падзялілі з крымінальнымі.

* * *

Прывялі да нас провокатара, Яшку Розэншайна.

Але яго пазналі.

Ноччу крымінальнікі наладзілі „вэласыпэд“. Заклалі паперку паміж пальцамі ног і падпалілі. Ён прачнуўся і ад болі стаў паднімаць ногі, быццам езьдзіць на вэласыпэдзе.

Раніцай ня стрымаў сябе Левін (з саюзу мэталістых) і выцяў яго па фізыі...

Дзяжурны надзорца зараз-жа пад моцны сьмех выпусьціў яго...

Нас разьмясьцілі па камэрах.

* * *

Набліжалася 1-ае мая.

Сталі згаварвацца камэры, як правесьці сьвята. Праз цырульніка (хадзіў па ўсіх камэрах) перадалі пісульку наверх.

Рыхтавалі хор. Умовіліся напярэдадні 1-га мая ўвечары сьпяваць па ўсіх камэрах Інтэрнацыянал і рэволюцыйныя песьні.

Цэлы месяц рыхтаваліся. І напярэдадні сьвята ва ўсіх вокнах запалілі сьвечкі. Зацягнулі „Паўстань, пракляцьцем катаваны“.

На шпацыр мы вышлі з банцікамі, але „грамафон“ (надзорца, які сачыў за шпацырам) стаў іх зрываць.

* * *

Пашлі аднолькавыя дні. Хіба часам яны „ўпрыгожваліся“ вобыскам ці якой-небудзь надаеўшай турэмнай „гульнёй“.

Напісалі ў „РАБОТНІК“ і „АРБЭЙТЭР ЦЭЙТУНГ“ ліст аб пабоішчах. У выніку прыехала вялікая камісія з сойму, усё агледзела, і толькі. **Олікер.**



# На Камароўскім полі

*(Апавяданьне старога рабочага)*

Гэта было пры паляках. Заганялі нас тады, не давалі зьбірацца.

Сяджу я гэта так у сябе дома, на Камароўцы, раптам—чую з вуліцы даносіцца шум, крыкі... Я выскачыў на вуліцу паглядзець, у чым справа.

А што ўбачыў, таго не забуду.

12 маладых хлапцоў—амаль дзеці. Яны ішлі па два і ланцугамі былі скуты адзін з другім.

За імі ступалі „жаўнежы“, і павольна рухаліся аўтомобілі, напоўненыя афіцэрамі.

А ззаду жудасна галасіла жанчына. „Брат мой Аляксей, куды цябе каты вядуць!“ Бегла за імі баба, пакуль не зваліўся на яе цяжкі прыклад.

Але страшней гэтых крыкаў быў спакой засуджаных. Па дарозе яны з сябе здымалі вопратку, шынэлі і аддавалі падарожным. „Навошта гэта нам, усё роўна паміраць“. Правільна дзіваваліся выглянцаваныя афіцэры сьмеласьці нашых партызан, перашэптываліся ў аўтомобілях.

А нашы сэрцы трывожна дрыжэлі, боль зьмяшалася з гордасьцю. „Так, так, браточкі, пакажэце, як нашы паміраюць“.

А калі падвялі да ямы, моцна забіліся сэрцы ў сотнях грудзей—але ня дрогнулі партызаны.

Проста сталі яны тварам да ямы—12 маладых, моцных, як тонкія бярозкі, сталі на краю ямы.

Прысуд вядомы:

Страляць!

Падалі тварамі ў яму, але ня зразу ўсе ўпалі, кепска стралялі пазнанчыкі. Услужлівы „жаўнеж“ праткнуў яшчэ, каго патрабавалася, штыком.

Насьміхаліся потым над целамі байцоў, кавыралі, доўга кавыралі іх штыкамі.

І доўга, шмат дзён і начэй стаялі на тым месцы людзі з аружжам і грозна выклікалі:

— Хто ідзе! **І. М.**



# Трое

*Верш* **Ю. Таўбіна**

1

Гаманілі шумна сёньня хвоі,
Нейкі дзіўны шорах у кустох...
Ой, ішло іх нешчасьлівых трое,—
Трое хлопцаў заблудзіліся ў лясох.
Не пазнаць дарогі ў цёмным лесе,—
Ўсе далей ішлі, і ўсе глушэй...
Меў старэйшы, Янка, гадкоў дзесяць,
А малодшы, Тодар,толькі шэсьць.
Ішлі яны...
Туман бялеў завесай
І сінеў бяздонны небазвод...
У гэты год па ўсіх „Усходніх Крэсах“
Быў вялікі голад—недарод.
Пахавалі маці нечакана,
Пахавалі—голад надышоў...
Ну, а бацька родны партызанам
Недзе б‘е абшарнікаў-паноў...
Выглядаў з-за горкі белы месяц,
Белы месяц срэбнаю касой...
Зналі хлопцы: бацька недзе ў лесе—
І пашлі шукаць яго ў лясох.
Па дарозе ў вёскі йшлі жабрачыць,—
Ім давалі людзі, што было...
. . . . . . . . . . . . . . .
Калі месяц белы, ня іначай
Будзе гора, смутак або зло...

2

Шэрай восеньню, раньняю парой
Паднялася у лесе трывога...
Ў цёмным лесе і стогны, і бой,
І крыніцы крыві на дарогах...
Ня здарма белы месяц глядзеў
З-за палёў на туманную шэрань...
Перамогаю скончыўся дзень,
Перамогаю польскіх жаўнераў...
Партызанаў ня многа было,
Не хапіла ў бойцы патронаў...
Дзевятнаццаць папала ў палон,
А астатніх дык так... без палону...
Срэбны вечар зышоў на прастор,
Апрануў далячынь ў сіні вэлюм...
Суд быў хуткі...
Гатоў прыгавор:—
„Большэвікаў даедна ростшэліць!“

3

У жыцьці для кожнага ёсьць свая пуціна,
І адна дарога ёсьць ў жыцьці для ўсіх...
Павялі у поўнач іх праз кусты і ціны,
Павялі у поўнач іх праз нямую сінь...
Павялі у поўнач іх цемраю лясною,
Неба ціха плакала васількамі зор...
Захісталісь сосны...
Зашумелі хвоі,
Ускалыхнуўся раптам векавечны бор...
Завязалі вочы ім, завязалі шчыльна,—
Усё было так дзіка, усё было, як сон...
. . . . . . . . . . . . .
Ціха між сабою хвоі гаманілі,
Плакалі туманы чыстаю расой.

4

Пакрыла бельлю дрэваў шаты
Красуня злосная зіма...
Яны ідуць, а толькі таты
Нідзе няма...
Нідзе няма...
У цёмным лесе ходзяць дрывіны,
Наводзяць сполах, смутак, жаль...
Яны-ж ідуць па сінь-пуцінах
У сонца радасную даль...
Віхор узьняўся ў бурнай строме,
У сьнегабелі далячынь...
Яны ляглі у цяжкай стоме
Ля стромкіх хвояў адпачыць...

5

Пад сьнегам бліскучым,
Шарэючым ранкам,
Схаваліся кручы,
Равы і палянкі...
Павялі суквецьці,
Ўсё вяне, спадае,
І носіцца вецер
Ад краю да краю...
А ў травах павяўшых,
Пад шатамі хвояў,
Заснулі назаўжды
Няшчасныя трое...
Спачылі ў турбоце,
Бяз роднага таткі,
А вецер лахмоцьце
Хістае, апраткі...

А неба шарэе,
Лес змоўкнуў... завыў...
У лесе завея,
Сьняговая стынь...

6

Ідуць гады,—
Растуць рады
Чырвоных змагароў...
Што дзень, то бой
З бядой людзкой
Што дзень ліецца кроў...
Што дзень, то кроў...
Ой, шмат байцоў
Засталась на шляхох...
Ня ўстаць ад сну
І ня зірнуць
На полымя-усход...
На хвілю—жаль,
І зноў у даль,—
Змагацца—хопіць сіл!..

# Дзеці сонца

Паўлюк Трус

Мы дзеці Сонца і Прывольля,
Мы дзеці Сонца і Вясны!..
Прад намі даль... Прасторы... Воля...
За намі—краты... кайданы!..
З кожным днём
Мацнее крок!..
Мы ідзём... ідзём... ідзём!..
...Будаваць!..—
Вось наш зарок...
З кожным днём.
Мацнее крок!..
Мы ідзём...
ідзём...
ідзём!..
А будуць дні... баі... паходы...—
Сьцягі ў агні зашалясьцяць.
Уміраць ня страшна за Свабоду,—
Мы дзеці сьмерці і жыцьця!..
З кожным днём
Сталёвей крок!..
Мы ідзём... ідзём... ідзем!..
...Беласток!..—
Вось наш зарок...
З кожным днём
Сталёвей крок!..
Мы ідзём...
ідзём...
ідзём!..
Ў жыцьці 'шчэ будуць перагасы,—
І кветкі пышныя ўзрастуць...
...Надзеі ў сэрцы не пагаснуць,—
Надзеі ружай расьцьвітуць!..
З кожным днём
Да мэты крок!..
Мы ідзём... ідзём... ідзём!..
...Нью-Іорк!—
Вось наш зарок...
З кожным днём,
Да мэты крок!..
Мы ідзём...
ідзём...
ідзём!..
Няхай ў палёх згусьцелі цені...
Пад песьні грозных навальніц,—
Ў душы ня згаснуць лятуценьні,
Як гымны Мора ў цішыні!..
З кожным днём
Да шчасьця крок!..
Мы ідзём... ідзём... ідзём!..
Мы саў'ём
Жыцьцю вянок...
Мы саў'ём—
Вось наш зарок!..
З кожным днём
Да шчасьця крок!..
Мы ідзём...
ідзём...
ідзём!..
Мы дзеці Сонца і Прывольля,
Мы сьвету новага тварцы!..
Прад намі даль... Прасторы... Воля,—
Жыцьця чароўныя вянцы!..
З кожным днём
Сталёвей крок!..
Мы ідзём... ідзём... ідзём!..
...Беласток!..—
Вось наш зарок...
Мы саў'ём
Жыцьцю вянок!..
З кожным днём
Да шчасьця крок!..
Мы ідзём...
ідзём...
ідзём!..

# Немец

Беліна-Падгаецкі

*(быль)*

Сапраўднае яго імя было Франсуа. Прозьвішча—Жыро, па матцы, бо бацькі свайго ён ніколі ня бачыў і нават ня ведаў, дзе ён знаходзіцца. Але ўсе акаляючыя, асабліва дзеці, якія часта несьвядома бываюць жорсткія, называлі яго проста немцам. У Франсуа былі прыгожыя блакітныя вочы, якія сьведчылі аб яго сапраўдным нямецкім пахаджэньні, нейкая вінаватая на вуснах усьмешка, як быццам ён прасіў у кожнага прабачэньня за тое, што яго бацька быў, згодна слоў маткі, нямецкім салдатам.

Калі яму было вельмі сумна, а гэта бывала вельмі часта ў яго адзінокім жыцьці, тады ён ішоў к свайму старому вернаму прыяцелю—сабаку Фоксу і, абняўшы яго сабачую касматую шыю абедзьвюма рукамі, шаптаў яму на вуха скрозь сьлёзы:—„За што крыўдзяць мяне гэтыя злыя дзеці? Ці-ж я вінаваты, што мой бацька немец і хіба немцы не такія самыя людзі, як і другія? Мама мне казала, што бацька мой быў добры салдат і слаўны чалавек, і я вельмі-б хацеў, каб ён быў тут са мной. Тады, можа-б, гэтыя злосныя дзеці ня лезьлі да мяне!“

Фокс уважліва слухаў словы свайго гаспадара і, як-бы разумеючы сваім сабачым сэрцам яго гора, ласкава віляў хвастом, выказваючы яму гэтым сваё спачуваньне.

* * *

„Немец! немец!“—крычалі дзеці, калі Франсуа з торбачкай за плячыма йшоў з сваім прыяцелем Фоксам да суседняга шклянога заводу, каб сабраць сухіх трэсак для падпалкі печы. І кідалі ў яго каменьнямі і мокрай глінай, знаходзячы ў гэтым вялікае задаваленьне.

„Убірайся туды, адкуль прышоў, нямецкая морда!“—закрычаў сын старшага бухгальтара суседняй фабрыкі, а другі хлопчык, блізкі родны сторажу шклянога заводу, дадаў: „Вось пачакай, як скажу свайму дзядзьку, што ты ходзіш красьці дровы на нашу фабрыку, дык ён прагоніць цябе адтуль сабакамі“. А адзін хлопчык, не разумеючы, якую ён робіць вялікую несправядлівасьць, схваціў вялікі і цяжкі камень, чуць падняў яго сваімі дзіцячымі рукамі і з усёй сілы кінуў яго да падыходзячага да іх Франсуа, які не пасьпеў у час ўхіліцца ў бок, пасьлізнуўся і паваліўся на пяскавую брудную дарогу пад гучны сьмех дзяцей.

Калі наступіў для Франсуа час ісьці ў школу, каб навучыцца грамаце, да штодзенных прыставаньняў дзяцей прыбавіліся яшчэ новыя мукі. Стары настаўнік, увесь прасягнуты буржуазнымі забабонамі і сьляпой ненавісьці да немцаў, адразу няўзьлюбіў Франсуа за яго нямецкае пахаджэньне, і дзе толькі была магчымасьць стараўся кінуць дакор свайму маленькаму вучню.

— Гэта вам тут не Нямеччына, каб так неахайна вувучваць заданыя мною ўрокі,—гаварыў зласьліва настаўнік ні к сялу ні к гораду, бо сам вельмі добра ведаў, што немцы па ўсім сьвеце славяцца сваёй акуратнасьцю.

— Калі вы жывіцё ў нашай краіне і ясьцё наш французскі хлеб, дык павінны падначальвацца ўсім нашым правілам!

І стары настаўнік, калі садзіўся на свайго любімага канька, пачынаў лекцыю аб прыгожасьцях французкай буржуазнай культуры, аб французсай гасьціннасьці і цярплівасьці, і аб некаторых суседніх нацыях, сапсаваных да немагчымасьці, якія толькі і думаюць нарабіць шкоды гэтай прыгожай ва ўсіх адносінах Францыі, толькі і марацЬ, каб зьнішчыць

яе культуру, якая стаіць наперадзе ўсіх другіх культур сьвету.

Франсуа моўчкі слухаў спэцыяльна накірованыя супроць яго словы і яшчэ больш упарта браўся за вучобу, імкнучыся ва ўсім, нават у дробязях, выканаць прадпісаньні свайго сярдзітага настаўніка. Але нічога не памагала яму і не ратавала яго ад злоснай і сьляпой ненавісьці старога буржуазнага пэдагога. Ён рашыў, што-б там ні было, выжыць з школы ядавітае нямецкае „насеньне“. На палову памешаны мусье Густаў павёў атаку па ўсім фронце, і на другі год вучэньня выгнаў Франсуа з сваёй школы за „сугубае гультайства“ і за відавочную непасьпяховасьць у занятках, хоць Франсуа вучыўся ня горш другіх, а па цэлым шэрагу прадметаў і лепш.

* * *

Быў чэрвень. Адзін раз у гарачы сонечны дзень Франсуа разам з сваім прыяцелем Фоксам вышаў пагуляць у поле даволі далёка ад сваёй вёскі. Аж заліваліся, трашчалі конікі, квітнелі ліпы і каштаны, павяваў чуць прыкметна ветрык і схіляў аж да зямлі залатыя каласы жыта і пшаніцы. А там дзесьці далёка-далёка ў блакітнай вышыні неба зьвінела вясёлая і шчасьлівая песьня жаваранка. Усё радавалася, усё сьмяялася ў гэты гарачы прыгожы дзень і толькі на сэрцы беднага Франсуа быў жаль і сум. Несправядлівасьць старога настаўніка, які выгнаў яго з школы, ня даўшы магчымасьці працягваць далей вучэньня, вечныя зьдзекі яго таварышоў, мука і цяжкая праца маткі, якая выбівалася з усіх сіл, каб на свой невялічкі заробак пракарміць яго і сябе,—над усім гэтым моцна задумваўся Франсуа. Усё часьцей і часьцей узьнікала няясная ненавісьць да сучаснага яму буржуазнага ладу ў яго дзіцячай, чыстай, шмат перажыўшай ад розных несправядлівасьцяй і змучанай цяжкім адзіноцтвам, душы.



*...і абняўшы яго касматую шыю, шаптаў на вуха...*

Раптам пачуўся прарэзьлівы дзіцячы крык, пранёсься ў гарачым паветры і заціх у далячыні.

Франсуа падняў галаву, аглянуўся вакол і адразу зразумеў у чым справа. Проста на яго ва ўвесь дух, задраўшы хвост да неба, нёсься, мабыць, уцёкшы з стайні фэрмы ці заводу конь, а перад ім з крыкам і плачам ад жаху бег 4-5 гадовы хлопчых, які стараўся сваімі слабымі ножкамі ўцячы ад пагражаючай небясьпекі. Усё бліжэй і бліжэй падбягаў конь і ўсё менш і менш заставалася сілы ў хлопчыка. І вось, зачапіўшыся за сук, хлопчык паваліўся і ад жаху самлеў. Забыўшыся аб усім на сьвеце, сваім горы і сваёй няўдачы, бачачы перад сабой, што хлопчыку пагражае небясьпека, Франсуа сьмела кінуўся насустрач амаль што вернай сьмерці. Сваечасова ён пасьпеў схапіць хлопчыка за ногі і адцягнуць ў бок. Конь, падымаючы слупам пыл за сабой, брыкаючыся заднімі нагамі, пранёсься далей, заставіўшы ўсхваляванага Франсуа з няпрытомным хлопчыкам на руках ляжаць у густой зарасьлі пры дарозе.

* * *

— Як мне дзякаваць вас, дарагі таварыш, за тое, што вы выратавалі майго малога брата ад пагражаючай яму вернай сьмерці!—гаварыў, прыбегшы на месца здарэньня П'ер—старэйшы брат вы-

ратаванага хлопчыка, з якім ён усяго некалькі дзён таму назад прыехаў з Руана пагасьціць да сваёй старой цёткі, якая ўжо даўно жыла ў гэтым прамысловым раёне Паўночнай Францыі.

Франсуа зьдзіўлена паглядзеў на яго і проста сказаў: „Дзякаваць мне няма за што, бо хто-б ня быў на маім месцы, зрабіў-бы гэта самае.“—„Вось гэта сапраўды адказ піонэра!“—з радасьцю сказаў П‘ер—„Піонэра?! А што гэта такое?“—задаў пытаньне Франсуа, ніколі яшчэ ня чуўшы аб гэтай дзіцячай організацыі. „Піонэры—гэта дзеці, якія жадаюць дабра ўсім прыгнечаным і абяздоленым, сярод якіх няма ні немцаў, ні французаў, ні палякаў, ні рускіх, якія ўсіх любяць, а ня любяць толькі ўсіх прыгнятацеляў!“—„Тады і я—піонэр!“—з выклікам у голасе сказаў Франсуа, працягваючы руку

бацьку—нямецкім салдаце, які ізноў вярнуўся ў Нямеччыну з сваім войскам і, мабыць, ня ведае аб тым, што тут у Францускай рэспубліцы жыве яго сын... Усё шчыра, нічога не затаіўшы, расказаў ён свайму новаму прыяцелю, і было вырашана, што, не адкладаючы часу, Франсуа ўступіць у шэрагі руанскіх чырвоных піонэраў і пры першай магчымасьці пакіне поўнач Францыі, які быў повен усякіх няпрыемных успамінаў. Ён пераселіцца з сваёй маткай у Руан, бліжэй да свайго баявога атраду, бліжэй да сваіх таварышоў і прыяцеляў. „Там цябе больш ніхто не пакрыўдзіць, таварыш,—сказаў П‘ер, моцна паціскаючы руку ўсхваляванаму да сьлёз Франсуа,—бо інакш, калі тыя, хто адважыцца табе яшчэ дакучаць сваімі прыставаньнямі, яны будуць мець справу з намі, а мы,



*Ён пасьпеў схапіць хлопчыка за ногі...*

свайму новаму і першаму ў яго невясёлым жыцьці прыяцелю.

І расказаў ён свайму новаму таварышу аб сваім жыцьці, аб мінулых пакутах; аб дзецях, якія зьдекваліся над ім; аб несправядлівым і жорсткім настаўніку, які ня даў яму магчымасьці, ня гледзячы на ўсе яго стараньні, працягваць вучобу; аб сваёй беднай змучанай цяжкай працай матцы, якая жыве ў брудным дзіравым бараку, дзе холадна зімой і горача летам. І, нарэшце, аб сваім, невядомым яму

таварыш, чырвоныя піонэры, ня любім падобных жартаў!“

* * *

У хуткім часе пасьля гэтай размовы Франсуа з сваёй маткай і верным прыяцелем цяжкіх дзён, Фоксам пакінуў назаўсёды поўнач Францыі, і пасяліўся ў горадзе Руане, дзе зараз-жа, як толькі прыехаў, уступіў у шэрагі руанскіх чырвоных піонэраў. П‘ер знайшоў для яго маткі, цераз сваіх бацькоў, больш лёгкую працу.

Цяпер Франсуа—піонэр. Ён шчасьлівы, яго ніхто ня крыўдзіць, а наадварот, усе адносяцца да яго з павагай, як да добрага таварыша і як да адданага і энэргічнага сябра дзіцячай рэволюцыйнай організацыі...

. . . . . . . . . . . . . . .

Усё тое, аб чым я тут расказаў вам, мае мілыя юныя чытачы, ня ёсьць выдумка фантазіі пісьменьніка, ня ёсьць якое-небудзь апавяданьне выдуманае ад пачатку да канца ў бяссонныя ночы для навучаньня вас, або для забавы. Не, Франсуа цяпер дарослы 12-гадовы хлопец, ён і зараз яшчэ жыве ў Руане, на маленькай чыстай вуліцы, недалёка ад вядомага сваёй старажытнасьцю Руанскага сабору. Кожную раніцу можна яго бачыць, як ён нясе на рынак прадаваць злоўленую рыбакамі ў Ляманшы за ноч рыбу, стараючыся ўжо гэтай работай памагаць сваёй матцы, здабываць матар'яльныя сродкі, неабходныя для іх пражыцьця. Ён шчасьлівы цяпер, ён сьмела глядзіць наперад у будучыну і рыхтуецца, калі прыдзе яго чарга, уступіць роўным сябрам у сталёвыя шэрагі сусьветнага Ленінскага Комсамолу. Бо сярод піонэраў усе роўныя, бо ў іх шэрагах няма ні французаў, ні немцаў, ні ангельцаў, ні італьлянцаў, а ёсьць толькі дзеці працоўнага народу, заўсёды гатовыя памерці, калі гэта будзе патрэбна за дабрабыт і шчасьце працоўнага люду ўсяго сьвету!



# Мая радасьць

**Ал. Розна.**

Эх, як сёньня люба
Радасна вакол:
Сонца сее срэбра
На зялёны дол.
Залаціцца поле
Пырскамі расы,
Шалясьцяць травінкі
І гудуць бары.
Я іду к загонам
Радасьць сустракаць,
Я хачу рукамі
Шыр палёў абняць.
Шалясьцяць травінкі,
Шэпчуць васількі...
Хочацца на полі
Кветкаю цьвісьці.

* * *

На плячо закінуў
Я сваю касу;
Першы раз сягоньня
Ёю узмахнуў.
Першы раз сустрэў я
Радасьць маіх дзён.
Шалясьцелі траўкі
І шумеў загон.
Плыло сонца ў далі
І усё цьвіло.
Мая радасьць сёньня
Веяла ў палёх.

. . . . . .

Эх, як было люба
Добра між палёў!
На плячы з касою
Я дадому йшоў...
І вілася радасьць
Між шумлівых траў,
І ружовы вечар
Мне паклон кідаў.






*Вершы піонэра* **К. Шавеля**

*Малюнкі* **П. Гутkоўскага**

1

Пятрусёў сусед Кандрат
Меў сабе вялікі сад.
І там кожны год „па вушы“
Родзіць яблыкаў і грушаў.
А Пятрусь да іх і ласы...
І вось ён зьбярэцца часам,
Peралезе частакол—
Грушаў, яблыкаў прыпол
У садзе тым наабівае.
А Кандрат таго ня знае,



*А Пятрусь да іх і ласы...*

Што Пятрусь у яго садзе
Кожны раз злачынства ладзіць.
І Кандрат пад нос гамоніць:
„Хто-ж гальлё у садзе ломіць?
Хай-бы яблыкі зьбіраў,
Ды гальля хоць не чапаў!“

2

Але вось аднойчы ўдзень
Па надворку дзядзька йдзе
І тут чуе ён, і бачыць,
У садзе хтось калом „дубачыць“.
Шмыг!—Кандрат тут за вароты,
І глядзіць—Пятрусь-блазнота
Палкай грушы абівае.
Тут Кандрат як загукае:
„Ах, брадзяга, абармот!“
Гэльц!—Пятрусь тут наш праз плот,
І, як быццам вецер шумны,
Паімчаўся ён за гумны.
Дзядзька доўга не чакае
І на вуліцу шагае,
І пад нос сабе гудзе;
Да мужчынаў ён ідзе,
Што на лавачцы сядзелі
Каля хаты Пятруся.
(Яно якраз было нядзеляй).
Падышоў Кандрат, глядзіць—
Бацька Петрыкаў сядзіць.
„Ну, Мікіта брат, здароў!
Да цябе якраз я йшоў.
Пагаворым мы хвіліну
Аб тваім распусным сыне“.
(А вось гэтая гаворка
Ўжо Мікіту аж агоркла,
Бо казаў тут не адзін,
Што яго распусны сын).
„Ну дык вось што, брат Мікіта,
Ты сядзіш сабе й нібыта,
А таго мусіць ня знаеш,
Што твой сын мой сад зьнішчае?“
„Ай, Кандрат, сусед Кандратка!
Чорт яго ўпільнуе, братка,
Бо вядома, гіцаль, гад!
Лупцаваў яго я шмат,
І калі яго б‘еш болей—
Ён шчэ‘ горш тады сваволіць.

Калі зловіш—не шкадуй,—
Моцна падлу адлупцуй!"
„Ох, і сына-ж маеш сына!—
Пачалі казаць мужчыны:
Лезе ён у агароды;
Рве гуркі там, кораньплоды.
Ад яго ўсе, небаракі,
Зьдзек цярпяць каты й сабакі".

3

Цікаваў Пятрусь з-за пуні,
Ці Кандрат туды ня суне.
А Кандрат ня йдзе й ня йдзе—
Значыцца, капут бядзе!
Апошні раз ён паглядзеў



*„Ах, брадзяга, абармот!"*

І на двор к сабе ідзе.
Калі-ж глянуў за варота—
Моцна спудзіўся блазнота:
Дзядзька вуліцай ішоў...
Высьце зноў Пятрусь знайшоў:
У сьвінны шмыгнуў хляўчук,
І адтуль ужо хлапчук
За вароты прыглядаўся...
Ля варот Кандрат стрымаўся
І размахіваў рукамі—
Гаварыў, знаць, з мужыкамі:
Імя Пётры ўспамінаў.
Страх хлапчыну спанаваў
Ад Кандратавых тых слоў,
Месца добрае знайшоў
Наш Пятрусь паміж сьвіней—
Абы схавацца тут хутчэй.
Удзень, ад летняе сьпякоты,
Сьвіньні ўсе пакрылісь потам,
І цяпер ў хляве ляжалі,
Языкі павыстаўлялі.
А ў прыполе Пятруся
Было надта многа бэраў;
Тут рудое парася
Ураз абнюхала—халера!
Падыходзіць рудзік вёрткі
І—цоп!—Петрыка за порткі;
Тармасіць стаў і цягаць—
Яму трэба бэру даць!
Рад быў рудзік той бяз меры,



Калі Петрык кінуў бэру.
Сьвіньні ўбачылі й другія,
І як быццам зьвяры тыя,
Лезуць к Петрыку яны:
Скогляць—дай садавіны!
Бачыць Петрык, што ня жарты,—
Тут валтузіцца ня варта,
І давай з сьвіньмі спрачацца
Ды нагамі адбівацца.
У сьвінушніку-ж вось тым
Было многа макраты,
І Пятрусь тут пасьлізнуўся,
І на ногі апынуўся.
Тут пасыпаліся йгрушы...
Ой, бяды-ж было па вушы!
Што рабіць тут, што рабіць?



*Высьце зноў Пятрусь знайшоў:*
*У сьвінны шмыгнуў хляўчук.*

Як сябе тут бараніць?
Доўга Петрык з імі біўся,
У гной бедны абрабіўся.
Сяк-так выбег з калатушы

І на двор тады ён рушыў,
Увесь аброблены, падраны...
Ды на лытках яшчэ раны...
Ды было-б гэта дарма,
Але вось ігруш няма!
А тымчасам і Кандрата
Ня відаць было з-за хаты...

4

Ну, дык што-ж рабіць тут далей?—
Думкі ў Петрыка паўсталі:
Калі ў хаце нікагутка,
Дык пайду туды я хутка.
Праз вакно ён паглядае—
Бачыць хата ўся пустая.
Увайшоў, кашулю скінуў,
Абацер і ў запек кінуў.
І як-жа тут ухітравацца,
Каб з „лазою“ не спазнацца!
„Ну, а праўда—знаю, знаю!“
Петрык порткі адмывае.
І на пол тут ён шагае.

і вось так яму сказаць,
Што нічога ён ня знае,
А на пасьцелі аддыхае.
Раптам стукнуў хтосьці ў дзьверы...
Страх схапіў хлапца бяз меры:
Думаў—бацька ў хату йдзе,—
Быць бядзе тут, быць бядзе!
Але ў хаце паказаўся
Піонэр, што Янкам зваўся.
— Добры дзень! Чаго заспаўся?—
Гэтак Янка прывітаўся.
— Павадыр, вунь, наш Рыгор
Кліча, брат, цябе на збор,
Што адбудзецца ля школы.
Стаў Пятрусь тут наш вясёлы,
Хоць да гэтага аж часу
Не хадзіў на збор ні разу.
Ня любіў ён піонэраў,
Не даюць, бач, красьці бэры.
Ды апошняе здарэньне
Выклікала ў ім сумленьне,—
Нельга болей гэтак жыць
І злачынстваў ўсім рабіць.



*І давай з сьвіньмі спрачацца, ды нагамі адбівацца.*

Лёг, накрыўся на пасьцелі...
(І хоць пагодная нядзеля,
Пятруся-ж гульня ня брала,
Жудасьць так апанавала).
Татку ўздумаў ён салгаць,

Борзда ён з пасьцелі ўстаў,
Адзяваць кашулю стаў
(Бо была яшчэ й другая).
Ну, а Янка прыкмячае—
Усе лыткі Пётры ў больках.

— Зарабіў так дзе ты столькі?
Аб усім Пятрусь прызнаўся—
Янка-ж моцна пасьмяяўся.



*Добры дзень! Чаго заспаўся?*

Як з двара Пятрусь шагаў,
Дык Мікіта ня крычаў,
Бо да гэтага ўжо часу
Ён з Рыгорам Тарасовым
Меў вялікую размову,
Дзе казаў, што вельмі рад
Пятруся ўпісаць ў атрад.

5

А з таей кашулі справа
Вышла добрая—яй-права!
Ўсё зрабілася шчасьліва:
Хлопец вышаў, як на дзіва!
Сее ён культурна бручку,
Робіць курам ён кармушку
Ї у садзе у Кандрата
Ён цяпер ня робіць стратаў.
Нічагуткі ані-званьня
Ў вёсцы ён ня хуліганіць.
А працуе, як вядома,
У сваім атрадзе й дома.
Пятрусю карысьці шмат
Піонэрскі даў атрад!!!



# Сёмкава экскурсія на Асінастрой

Нічыпар—старэйшы брат піонэра Сёмкі, выпісвае газэту „Чырвоная Зьмена“. Кожны раз, як атрымаецца сьвежы нумар газэты, Нічыпар адарвецца на хвіліну ад работы, прабяжыць хуценька вачыма па старонках, меншыя артыкульчыкі прачытае, а большыя выража ножнамі і шпількамі прыколе да сьцяны.

Заўважыў гэта Сёмка ды пытае ў брата.

— Навошта ты газэту да сьцяны прybіваеш?

Ухмыльнуўся Нічыпар весела, ды адказвае:

— Каб чыталі ўсе... у часе яды. Так можна пад‘есьці і пра навіны даведацца!

Сеў аднойчы Сёмка палуднаваць і давай шукаць на сьцяне, што-б такое пачытаць. „Магутная тут станцыя будуецца“—вялікімі літарамі прамільгнуў перад Сёмкам загаловак. Зацікавіўся. Чытае. Пра Асінастрой напісана.

— Тата,—зьвярнуўся Сёмка да бацькі,—а ці далёка ад нас тая Выдрыца, пра якую вось тут напісана?

— Вёрст дзесяць. Гэта за Андрыянаўскімі хутарамі. Там завод, брат, некалі быў вялікі.

* * *

Зацікавіўся Сёмка Асінастроем не на жарты. Парашыў пабачыць яго ўласнымі вачыма. Але-ж як гэта можна?

— Толькі шляхам экскурсіі,—адказаў сам сабе Сёмка і ад радасьці нават усьміхнуўся.

Пытаньне аб экскурсіі стаяла на зборы атраду, і да думкі Сёмкі далучыліся яшчэ два піонэры і піонэркі. Увесь атрад, з прычыны занятасьці некаторых дзяцей пайсьці, ня мог.

Гэта было на „дзевятнік“—такое сьвята ў чэрвені месяцы. Сёмкава экскурсія парашыла: „дзевятнік“—самы выгадны дзень; сяляне не працуюць, а на Асінастроі, бязумоўна, працаваць будуць.

З усходам сонца пяцёра дзяцей з Міцькаўскіх хутароў, з нявялічкімі клумачкамі за плячыма, выправіліся ў дарогу.

Весела праходзілі вёрсты, не адчувалася ніякай болі ў нагах.

Яшчэ за вёрст некалькі ад Выдрыцы яны ўгледзелі як пачала вырысоўвацца ў сініх далях замурзаная труба былога хэмічнага Выдрыцкага заводу.

* * *

— Ня больш, як 10 год таму назад, з гэтай самай засмучонай адзінокай трубы клубамі-хмарамі каціўся чорны дым. Так, гэта дым ад гарэньня трох тысяч чалавек, якія на дзьве зьмены, па 12 гадзін у суткі, пад панукваньні старшага выпрацоўвалі з бярозы і асіны розныя хэмічныя рэчы.

— Гадоў сорак таму назад на гэтым самым месцы ня было ніякага заводу, ніякіх будынкаў, тут ня жылі людзі. Тады тут былі вялізарныя непраходныя пушчы, тады чулі суседнія вёскі, як радасна апявалі сваё жыцьцё тысячы рознастайных птушак, тады спатыкаліся тут паляўнічыя з вялікімі мядзьведзямі і злоснымі дзікімі парсюкамі.

— Як хутка ўсё мяняецца. Здаецца, гэта зусім нядаўна было. Маленькім хлопчыкам яшчэ тады быў я. Як выйдзеш з нашай вёскі—адразу ўвапрэшся ў непраходныя лясы. Такія-ж яны былі густыя, нават сонца ў самыя ясныя дні не праходзіла праз ліству і не давала падняцца маленькім расьлінкам, што нараджаліся ў лесе. Гэтыя лясы належалі тады княжне Любамірскай. Багатая княжна была. У 1890 годзе прыехала сюды кампанія нямецкіх багачоў, адкупіла лес і пабудавала вось гэты завод. Прыгожым ён тады быў і вялікім. Выпрацоўваў завод 36 розных хэмічных рэчаў: дравяны сьпірт, смалу, вуксусны парашок і г. д. У суткі пераганяліся 96 кубоў дрэва. І вось за нейкіх 25 год гэты самы завод зьлізаў такі прыгожы, такі багаты наш лес. Ня стала непраходнай пушчы—пачалі нараджацца балоты...



**Пасёлак Выдрыца**

* * *

Гэту гісторыю заводу, што з такім жалем да зьнішчаных багацьцяў расказаў стары дзядзька, якога па дарозе сустрэлі экскурсанты, слухалі дзеці з вялікай напружанасьцю і зацікаўленасьцю.

А Сёмка, як-бы злуючы на тых немцаў, што зьелі прыгожы тут лес, ветла адказаў гэтаму дзядзьку:

— А цяпер саветы збудуюць тут вялізарную электрычную станцыю, правядуць у вашу хату дроцікі, па якіх будзе бегчы да вас сьвятло. Дадуць вам заработкаў шмат.

Прышоўшы ў Выдрыцу, дзеці боязна пераступалі канавы па вузенькіх дошачках, унізе якіх капашыліся ў вадзе людзі, наладжвалі вадаправодныя трубы.

Парашылі заглянуць да начальства Асінастрою. Іх там весела спаткалі, пагутарылі. А ў перапынак для полудню інжынэр **Гуцаленка** расказаў дзецям наступнае:

— Асінастрой будзе такая вялікая станцыя, якая дасьць у **1929** годзе **30** тысяч кілёват сілы для прамысловасьці Воршы, Віцебску, Магілеву і бліжэйшых ім гарадоў. Па сваёй моцы і энэргіі Асінастрой будзе мець ня толькі ўсебеларускае, але і ўсесаюзнае значэньне.

Потым пашлі аглядаць працу.

І Сёмкава экскурсія бачыла:

Ня было вады. Дакапаліся рабочыя да вадаправодных труб, ачысьцілі харкату векавую, і па пасёлку па гэтых жалезных падземных жылах пацякла ў кожную адбудаваную хату празрыстая, як паветра, вада.

Былі не дамы—а настаяшчыя хлявы. Прыклаў свае рукі рабочы, аршанскія кровельшчыкі палазілі па дзіравых стрэхах, наладзілі іх, ахварбавалі ў чырвоны колер, і з грудаў цаглянага шчэбню, як падасінавікі, вырасьлі чатыры прыгожыя будыніны—зусім як новыя!

Цяпер тут жывуць рабочыя.

Побач старога заводу была невялічкая разбураная лазьня. Прышлі сяляне, яшчэ больш яе разламалі, павыцягвалі цэлыя цагліны з сьцен, паклалі іх у стройныя ярусы, а цяпер майстра бярэ гэты матар‘ял, абгаблюе яшчэ больш сваім малатком шурпатыя яго бакі, і з старога будуе новае.

Тав. Гуцаленка, які ішоў з дзяцьмі, падбадзёрвае рабочых:

— Будуй, будуй, хлопцы, будзем парыцца потым кожны дзень... бярэзьніку ў нас на венікі хопіць.

Таксама будуецца і тэатр, і спэцыяльны будынак для амбуляторыі, для паштовай канторы, адбудоўваецца некалькі пакояў для коопэратыву, які ўжо распачаў працу, а там, навокал адбудаваных дамоў, капошацца дзяўчаты, садзяць маладзенькія дрэўцы, упрыгожваюць пасёлак да 11-га ліпеня—да дню ўрачыстага адчыненьня прац па будаваньню Асінастрою.

Хацелася дзецям пабыць у вёсцы Арэхі, дзе будзе збудавана сама станцыя, але інжынэры не параілі ісьці: там цяпер не праводзяцца ніякае працы, а пачнуцца пасьля 11-га ліпеня.

Ішла дамоў Сёмкава экскурсія і радавалася, што была на тым месцы, лазіла па акраінах Асінаўскага балота, адкуль роўна праз два гады, па медных дроціках пабяжыць электрычнасьць у многія гарады Савецкай Беларусі.

**Зьм. Гарошын.**



**У дзень вызваленьня Беларусі ад белапалякаў—11-га—ліпеня—на Асінастроі адбылося ўрачыстае адчыненьне работ, якое вылілася ва ўсебеларускае сьвята рабочых і сялян.**

**На адчыненьне прыяжджалі дэлегацыі Беларускага ўраду, ЦК КП(б)Б, профсаюзаў, а таксама прадстаўнікі ад Ўсесаюзнага ўраду і Украінскай рэспублікі.**

**Паглядзець першыя работы па будаўніцтву магутнай электрычнай станцыі на пасёлку Выдрыца сабралася некалькі тысяч сялян, комсамольцаў і піонэраў з суседніх вёсак, мястэчак і гарадоў.**

# Смалявічы—Менск

*(Масавая экскурсія дзетвары Смалявіцкага раёну)*

*У паход.* 15-га чэрвеня. Раніца. Чуць сьвітае... Хутка адзін за другім пачынаюць прыбываць экскурсанты да раней вызначанага месца. А вось і ўсе сабраліся. 20 чалавек (большых), каб з'эканоміць на грашох, падахвоціліся прайсьці пехатою адну станцыю да Калодзішч. Адзін сьвісток кіраўніка і ўсе пусьціліся ў дарогу.

Ідуць бадзёрыя... Сонца яшчэ не пасьпела прыпячы, але мяркуючы па адзнаках на небе, пагода мелася быць добрай. Хутка ляцяць вёрсты, не пасьпееш аглянуцца, як—6-7-8.

— Астаноўка!—крычыць кіраўнік.

— Ды дзе там!—крычаць экскурсанты.

— Не змарыліся яшчэ, пойдзем далей. Кіраўнік настайвае на сваім і ўсе адпачываюць.

*Станцыя Калодзішчы.* Ад Смалявіч да станцыі Калодзішчы 21 вярста. Усе добра спацелі, пакуль дапаўзьлі. Вось чаму, убачыўшы Калодзішчы, усе дружна з радасьцю закрычалі: „Ура!"

На станцыі, да прыезду таварышоў меншага ўзросту (іх было 40 чал.), заставалася чакаць 5 гадзін. Разьмясьціліся ў садку. Жарты, сьмех пасыпаліся з вуснаў вясёлых экскурсантаў.

Некаторыя пайшлі шукаць чаго-небудзь „шамануць".

А час ляціць... Вось ужо 6 гадзін: трэба купляць білеты. Купілі і, ужо зусім гатовыя да ад'езду, сталі на пэроне і чакаем цягніка. Здалёку паказаўся маленькі дымок.

— Цягнік, цягнік!—закрычалі ўсе.

— Цішэй, таварышы, трэба арганізавана,—адклікаецца нехта.

А насустрэч нам, махаючы шапкамі, хусткамі і так рукамі, імчацца экскурсанты. Адзін міг: „Ура!", „ура!"—і мы ўжо ў вагоне.

Весела перакідваюцца словамі, усьмешкамі. А цягнік імчыцца... Вось ужо відаць і Менск. Экскурсанты ўпіліся ў яго вачыма, высунуўшы свае галовы далёка за вокны вагонаў. А Менск усё больш і больш захапляе іх сваёй вялікасьцю і вабіць да сябе. Ды і як не захапляцца,—гэта-ж большасьць вясковых дзяцей, якія далей свайго выгану ня былі.

*У Менску.* Пастроіліся і дружна зашагалі па Савецкай. Але хутка таварышы пачалі патроху рассыпацца: адзін у вакно заглядзеўся, а другі—на шыльду.

Пакуль дайшлі да Ленінскай, дык чалавек 5 было ўжо згубленых. Выявілася,



*Група экскурсантаў.*

што загледзіліся на шыльды, дык так і засталіся.

Нанач разьмясьціліся ў 17 школе.

*Назаўтра.* Пабылі ў Дзяржаўным і Рэволюцыйным музэях. „Добра,—кажуць экскурсанты,—спадабалася, асабліва Музэй Рэволюцыі; можна лепш вывучыць рэволюцыйны рух, чым у школе“.

А 6-ай гадзіне было спатканьне з мэнскімі піонэрамі. Прышло сустракаць каля 8 атрадаў горрайбюро ЮП. Некалькі гарачых прывітаньняў...

— Падтрымлівайце сувязь з вясковымі піонэрамі!—крычыць прадстаўнік экскурсантаў.

— Наладзім!—адказваюць тыя.

Спатканьне канчаецца дэмонстрацыяй па горадзе.

*Нібы галадоўка.* На трэці дзень пачалі ўжо адчуваць голад: не хапіла харчоў. Патрэбны грошы. Дзе дастаць? Мы ў Акрана, туды-сюды... няма дзе дастаць. Добра, што здагадаліся зайсьці ў рэдакцыю „Бел. Піонэра“. І толькі пры дапамозе рэдакцыі дасталі ў Акрана 6 руб.

*Дзе яшчэ былі.* У Доме Чырвонай Арміі, на радыё-станцыі, радыё-выстаўцы, на двух заводах і на вечары.

Экскурсія прабыла 4 дні. 19 чэрвеня ўвечары экскурсанты, здаволеныя, накіраваліся ў Смалявічы.

**А. Кучар.**

# І весела і здорава

*(м. Лельчыцы)*

Пасля таго, як нашы піонэры і наогул дзеці закончылі школьную вучобу, наш атрад пачаў практыкаваць „гутаркі ў кастра“.

Ня толькі піонэры, а і неорганізаваныя добра іх наведваюць. У гэтай рабоце зацікаўлены самі дзеці. Яны рыхтуюць гутарку, абіраюць месца для збора, апавяшчаюць дзяцей і г. д.

Акрамя праводзімых гутарак у вызначаныя дні і месцы, мы праводзім гутаркі з пастушкамі ў час іх працы. Пастушкі самі організоўваюць гутаркі, гульні, чытаюць газэты. Організоўваюць усю гэту работу піонэры.

Працуем з вялікай ахвотай.

**Фінкель Ш.**

# Дзецям Заходняй Беларусі

Піонэратрады м. Журавічы, Магілеўскай акругі, нядаўна распрацоўвалі заданьне: „Дапаможам галадуючым дзецям Заходняй Беларусі“. У выніку было сабрана 10 рублёў і накіраваны ў камітэт „МОПР‘у“ праз часопісь „Беларускі Піонэр“.

**Партноў.**



*Смалявіцкія экскурсанты ў радыё-выстаўкі.*

# Байцы 64-х клетак...

*(Віцебск, атрад працасьветы)*

Кожны вечар, калі стрэлка падыходзіць да цыфры „5“, наш клюб ажывае. Зьбіраюцца піонэры і акцябраты, прыходзяць павадыры атраду, неорганізаваныя дзеці і нават ня рэдка наведваюцца комсамольцы.

Тады пачынаюць сваю працу асобныя зьвеньні, пераплётны гурток, некаторыя піонэры чытаюць газэты ці часопісі, дзені-дзе ідуць ажыўлёныя гутаркі... Але нішто з пералічанага не займае такога цэнтральнага месца і ўвагі, як шахматы і шашкі.

Вакол столікаў, дзе гуляюць, заўсёды шмат піонэраў, ідуць ажыўлёныя абмяркоўваньні тэй ці іншай комбінацыі, вартасьці ходоў гуляючых і наогул якасьці гульні.

Вось за шашкамі сядзіць атрадны чэмпіон—13-гадовы піонэр Левінаў... Яго твар сур'ёзны і задумчывы. Праціўнік—піонэр Мэнхін ужо каля двох месяцаў змагаецца з ім за пярвенства па шашках у атрадзе і зрабіў за апошні час вялікія посьпехі... На апошнім „лятучым“ шашачным турніры Мэнхін абагнаў Левінава на два ачкі і заняў 1-ае месца.

Партыя ідзе напружана... Сілы пакуль што роўныя... Вось адзін аддаў дзьве шашкі і ўзяў чатыры, праціўнік адказаў тым-жа... Яшчэ некалькі варыянтаў, абодвы праціўнікі памкнуліcь у дамкі і партыя канчаецца ў нічыю.

Вакол узбурэньне... Розныя заўважваньні і ўсхваленыя выклікі:

— Вось гэта лоўка!

— Адзін другому ня ўступаюць...

А ў кутку ўжо зьбіраюцца шахматыстыя. Трэба абмеркаваць пытаньне аб шахматна-шашачным матчы з піонэр-атрадам дзіцячага дому Лукішкі... Хутка разьмяркоўваюцца месцы ў матчы, прыпамінаюцца шахматныя тэорыі, разьбіраюцца канцы партый... Заўтра сур'ёзнае апрабаваньне...

* * *

Мы ў Лукішках... Гэта ў трох вярстох ад цэнтру горада... Навокал дрэвы, кветкі, трава, і дзякуючы сьвежаму паветру дышыцца прывольна і лёгка...

Супроць нас піонэр атрад Лукішак выставіў 7 самых лепшых шахматыстых і 10 шашыстых... Матч пачынаем па ўсім правілам... Нам выпала гуляць чорнымі,— гэта значыць, што першы час нам прыдзецца абараняцца ад нападзеньняў праціўніка, і толькі калі будзем добра гуляць, зможам самі рынуцца „ў атаку“.

Спачатку гуляць цяжка... Бадай ўсе „лукішачнікі“ выбралі супроць нас комбінацыю дзіцячага мату ў 4 хады і вакол гэтага будуюць ўсю партыю. На гэтым яны і праігрываюць. На 1-ай дошцы піонэр Кушнёў, лоўка адбіўшы „кіндэрмат“, выігрывае туру і прымушае праціўніка здацца. На 4-ай дошцы наш піонэр-комсамолец хутка заваёўвае добрае становішча і зусім нечакана на 18-м хаду аб'яўляе „мат“ праціўніку. На другіх дошках таксама добрае становішча.

Шахматны матч канчаецца з лікам +6—1 у нашу карысьць. Так піонэры Лукішак паплаціліся за свае „кіндэрматы“.

Шашачны матч скончыўся +17—3 таксама ў нашу карысьць. Асаблівае захапленьне ў усіх выклікаў наш 7-гадовы акцябронак Айзя Рапапорт, які, гуляючы ў шашкі на 9-ай дошцы супроць 15-гадовай дзяўчынкі, адну партыю зьвёў у нічыю і другую выйграў.

Радасныя пакідаем Лукішкі... Цяпер чакаем рэваншу.

* * *

Зараз організоўваем шахматны гурток; трэба ня толькі гуляць, але і вучыцца, кабісьці да новых дасягненьняў. А іх ужо цяпер шмат. На раённым піонэрскім турніры атрад узяў 8-ае месца. У турніры юнсэкцыі працасьветы наш піонэр узяў 2-ое месца і шэраг другіх 5, 6 і 7-ае.

А цяпер усе нашы сілы—на вучобу. Уперадзе шэраг матчаў з рознымі атрадамі. Пастараемся не пасароміцца.

**Нінель Акцябрскі.**

## Будзем прыхільнікамі птушак

На сходзе вучняў нашае школы быў заслухан даклад аб ахове птушак. Вучні ўважліва слухалі даклад. Пасьля дакладу прынялі пастанову аб тым, каб вучні не разбурвалі птушыных гнёзд, а, наадварот, прываблівалі іх да сябе, робячы ім гнёзды дома і г. д. Усе абяцалі гэта выканаць. Паглядзім, як выканаюць.

**Андрэй Караткевіч.**

---

## Выпускаем часопіс

*(Аршаншчына)*

Калі ўтварыўся наш беларускі літаратурны гурток, сяброў у ім было мала і працаваў ён слаба.

Калі мы сталі выпускаць рукапісную часопісь,—гурток ажыў. Часопісь прыцягнула да сябе шмат чытачоў, якія потым сталі яе дапішчыкамі. У часопісі зьмяшчаюцца апавяданьні, вершы і інш. Працуюць у часопісі выключна вучні. Кіруе гэтай працай настаўнік. Часопісі вышла ўжо 3 нумары.

Сталых дапішчыкаў часопісь мае 15.

Вучань **В. С.**

---

# ЖАРТЫ

### Крыўда сялян.

— Столькі гадоў тутака жывем і заўсёды ад нашай вёскі да гораду было 25 вёрст. А цяпер зьявіліся нейкія там інжынэры, трасца ім у бок, перамералі дарогу нанова ды і налічылі 37 вёрст. Вось цяпер праз іх і хадзі лішніх 12 вёрст, каб яны самі ўвесь век так хадзілі.

### Памылка

— Мама, ці ў чарніцы ёсьць ногі?

— Што гэта ты надумаўся? Вядома, няма.

— Так, значыцца, я заместа чарніцы зьеў нейкую казюльку.

---

Калена левай нагі адводзіцца як мага больш ў бок, нага згінаецца, падводзячы пяту пад калена правай нагі, пальцамі ўніз—удыханьне (мал. 4).

На „тры“—рукамі ўзяць першапачатковае становішча, нага з усёй сілай выпростваецца і адводзіцца ў бок—выдыханьне (мал. 5).

На „чатыры“—першапачатковае становішча—рабіць усе рухі, але нагамі па чарзе правай і левай.



Мал. 4.



Мал. 5.

Пры вывучэньні гэтых правіл трэба іх рабіць плаўна (бяз хістаньня цела), моцна прытрымліваючыся паказаных правіл дыханьня, узгадняючы іх з рухамі рук і ног. Калі гэтыя правілы будуць добра ўсвоены, можна ісьці на ваду. Але ня трэба думаць, што вы адразу пачнеце плаваць.

Трэба спачатку захапіць з сабою прылады, што дапамагаюць плаваць (паплаўкі, коркавыя паясы, пузыры і г. д.), і вось на паплаўках ці так на чым вывучаныя правілы прарабіць, лежачы на вадзе. Пасьля таго, як на вадзе ўсе гэтыя правілы будуць добра ўсвоены, паплаўкі ці што другое трэба адкінуць і спрабаваць паплыць самому. Калі вы будзеце трымацца гэтых правіл, то вам лёгка будзе паплыць.

**Р. Р.**

ЦАНА 12 кап.

# СПРЫТНЫЯ ХЛОПЦЫ

*(Фізкультурныя фокусы)*

10. А вось другая задача-жарт, у якой ты можаш пахваліцца сваёй сілай і пры тым не пазнаюць твае хлусьні. Ты кажаш, што ты можаш падняць чалавека пяцю пальцамі. Выконваецца гэта так. Той, каго трэба падняць пяцю пальцамі, павінен стаць сярод пяцёх удзельнікаў гэтага вопыту і пастарацца напружыць мускулы шыі, рук і ног. Рукі пры гэтым павінны быць сагнуты ў локцях. Двое з удзельнікаў вопыту падводзяць свае




ўказацельныя пальцы пад ступні стаячага чалавека, двое пад яго локці, а пяты падтрымлівае за бараду. Потым аднычасова ўсе пяцёра лёгка паднімаюць стаячага на падлозе. Такім чынам, умовы задачы выкананы—твой таварыш падняты пяцю пальцамі пяці чалавек.

### Эквілібрысты

Ніжэй апісаныя фокусы лепей усяго прарабіць над таварышамі.

11. Пакладзі бокам бутэльку на падлогу; цяпер прапануй каму-небудзь сесьці на яе (уздоўж, а ня ўпоперак), выцягнуўшы ногі проста перад сабою. Ногі павінны быць складзены разам ці пастаўлены адна на другую. Седзячы ў такім становішчы, патрабуецца запаліць запалку пры тэй умове, каб ні разу не даткнуцца да падлогі рукамі.

12. Другое практыкаваньне падобна папярэдняму. Тут таксама трэба запаліць запалку. Робіцца гэта ўдваіх. Пастаў двух таварышоў: аднаго супроць другога, кожнага на адно правае калена; другую ногу яны няхай падтрымлізаюць на вясу сваімі левымі рукамі. У правыя рукі аднаму дай скрынку ад запалак, а другому запалку. Цяпер прапануй ім запаліць запалку, не даткнуўшыся ні разу да падлогі другой нагой.

Тыя бездапаможныя рухі, якія робяць пры гэтым удзельнікі, выклікаюць вялікі сьмех у гледачоў.

### Скакун

Тут мы апішам два выгляды скачкоў.

13. Першы скачок адбываецца праз звычайны гімнастычны кій.

Вазьмі кій перад сабою за канцы і пастарайся пераскочыць цераз яго так, каб ня выпусьціць яго з рук. Першы час мабыць цябе пасягне няўдача; пагэтаму, каб ухіліцца ад ушыбаў пры падзеньні, рабі гэты скачок на чым-небудзь мяккім.

14. Другі фокус з скачкамі не патрабуе ніякіх прыладаў.

Стань каля сьценкі і прыхілі да яе ступню левай нагі на вышыні 20—30 сантымэтраў. Патрабуецца адапхнуцца правай нагою і пераскочыць цераз сваю




левую ногу, не аднімаючы яе пры гэтым ад сьцяны. Зразумела, што трымацца за што-б там ні было не дазваляецца.

Першымі няўдачамі не саромейся, немагчымага тут нічога няма. У выніку, калі пераможаш першыя цяжкасьці, ты зможаш скакаць і праз большую вышыню, чым 20—30 см.

1-я дзярж. друк. Зак. № 2553. У ліку 2500 экз. Галоўлітбел № 25850.